# КРЫВІНКА

КАСТРЫЧНІК
№ 15 (169)
2015 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



КАМПАНІЯ - 2015

## ГІСТАРЫЧНАЯ ПЕРАМОГА

**На выбарах прэзідэнта Бешанковіцкі раён паказаў найвышэйшую актыўнасць у вобласці, ды, бадай што, і ўва ўсёй рэспубліцы.**

Гэта вам не жартачкі – дабіцца, каб на ўчастку прыйшло 99,2% выбарцаў! Ды ў савецкія часы падобная лічба не заўсёды радавала вока тагачасную ўладу. Нават у 1936-м годзе пры самім Сталіне знаходзілася шмат адшчапенцаў, якія ігнаравалі генеральную лінію партыі. А вось 11-га кастрычніка 2015-га года ў Бешанковіцкім раёне такіх амаль не засталося. Калі ж улічыць, што сярод гэтых 99,2% амаль 100% падтрымалі прэзідэнта Лукашэнку, то, як кажуць, усе пытанні зняты. Э-ле-гант-на-я пе-ра-мо-га!

Спадзяёмся, Мінск яшчэ аддзячыць кіраўнікоў нашага раёна, якія ў няпростай эканамічнай абстаноўцы здолелі мабілізаваць усе рэсурсы і правесці амаль ідэальныя выбары.

Рэспект спадарам Леаніду Пянькоўскаму, Мікалаю Заблоцкаму і Генадзю Шведаву, якія змаглі стварыць працаздольную раённую камісію, куды ўвайшлі загартаваныя вопытныя кадры, за плячыма якіх былі ўжо не адны выбары.

Раённы ідэалагічны аддзел на чале з Наталляй Апанасёнак здолеў дайсці да кожнага выбарца, пераканаць людзей зрабіць правільны выбар на карысць моцнай, працвітаючай Беларусі.

Рэспект старшыні і намесніку раённай выбарчай камісіі спадарыням Ніне Журко і Святлане Бабаед, якія так арганізавалі работу ўчастковых камісій, што на ўчастак дайшоў кожны чалавек.

Гэтыя людзі ўвайшлі ў гісторыю раёна. Іх трэба памясціць на раённую Дошку гонару. Трэба, каб пра іх ведалі ўсе.

У раёне былі нейтралізаваны ўсе дэструктыўныя элементы, якія, трэба прызнаць, тут усё ж ёсць. Хаця тыя "элементы" і вельмі хацелі, але іх не ўключылі ні ў адну з камісій.

На гэтых выбарах яны нават не прынялі ўдзел у назіранні. А каб і прынялі, тут ім быў падрыхтаваны поўны адлуп, бо ў раёне была развернута сетка правільных назіральнікаў. Яны б здолелі блакаваць і выдаліць з участкаў любыя дэструктыўныя элементы.

Так што дзякуй, таварышы землякі, за падтрымку, за правільны выбар.

Дзеля справядлівасці, трэба адзначыць і негатыўныя моманты, якія мелі месца на выбарах. 3,91% несвядомых выбарцаў (агэта чалавек 300 ці 400) праявілі палітычную няспеласць, адхіліліся ад галоўнага курса і ў выніку няправільна прагаласавалі. Нам ёсць над чым працаваць у будучыні. Трэба разгарнуць грамадска-выхаваўчую працу сярод насельніцтва так, каб праз пяць гадоў на наступных выбарах наш любімы прэзідэнт набраў у нашым раёне 100%.

Задача цяжкая, але пасільная і цалкам вырашальная. Над гэтым і трэба працаваць, пачынаючы з 12-га кастрычніка.

Усе за працу, таварышы!

**А.Тутэйшы**

### *ВЫБАРЫ Ў БЕШАНКОВІЧАХ*

*На вуліцы клёны
ў залатых каронах
святу ўсенароднаму радуюцца,
мусіць.
Ў Белар-русі выбар-ры
– каркае варона –
пажыццёвага цар-ра
ўсея Белар-русі!*

*На вулачках ціха. Дзе народ?
– Галосіць.
Некуды шыбуе сумная таксоўка.
А з участка вецер
музыку даносіць:
цэлая камісія сёння
ў падтанцоўцы.*

*Старшыня бушуе:
"Што за неахайнасць!
Хто дазволіў восені
крочыць па завулку?!"
Згвалчанае лісце
стомлена ўздыхае.
Свята хутка скончыцца,
бо ў лядоўнях гулка.*

*Хтосьці ўжо дахаты
весела спяшаецца,
хтось навідавоку смачна ванітуе:
пяцігодка шчасця
сёння пачынаецца,
нават ўсе сарокі
ведаюць пра тое.*

*А сказаць па шчырасці,
хочацца пляваццa,
хоць казаў мне бацька:
ты не плюй пад вецер.
Даражэнькія мае,
беларусы-братцы,
колькі ж яшчэ будзем
мучыцца на свеце?*

**Г.Станкевіч**

ДАЖЫНКІ-2015

## БЕШАНКОЎЦЫ Ў ТАЛАЧЫНЕ

**Нашы землякі таксама падымаліся на галоўную сцэну "Дажынак".**

Сярод узнагароджаных дырэктар ЗАТ "АСБ-Агра Наватар" Д. В. Пятрашка і яго намеснік У. К. Пянькоўскі, дырэктар УП "Свіціна-ВМК" Л. П. Мамойка, начальнік участка ДП "ПлісыАгра" І. А. Карнеевіч і галоўны аграном ДП "ПалітаддзелецАгра" В. Ю. Аўчыннікаў.

Дзякуючы спонсарам сельгасарганізацый на галоўнай сцэне абласнога свята "Дажынкі-2015" былі ўручаны сертыфікаты на кормаўборачны камбайн "ККС-3000", 21 трактар "МТЗ-82", 53 веласіпеды і кампутары.

Нашы культработнікі арганізавалі працу падворка, дэманструючы песеннае майстэрства, кулінарнае мастацтва, дасягненні ў дэкаратыўна-прыкладной творчасці, і паспяхова справіліся з тэатралізаванай абаронай брэнда раёна "У мястэчку над Дзвіной".

Аддзел адукацыі, спорту і турызму райвыканкама прыняў удзел у выставе-прэзентацыі творчасці навучэнскай моладзі вобласці, райспажыўтаварыства цешыла гасціннасцю на сваім падворку.

Гасцей і ўдзельнікаў "Дажынак" прыемна здзівіла выстава караваяў раёнаў вобласці "Каравай-2015", дзе быў прадстаўлены і хлеб Бешанковіцкага райпо.

Адным словам, "Дажынкі" ў Талачыне запомніліся яркімі фарбамі. Эстафету свята пераняў г. Сянно, менавіта тут у 2016 пройдзе абласны фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі.

**Па матэрыялах газеты "Зара"**



НАША ЖЫЦЦЁ

## ІНВЕСТАРЫ Ў БЕЛАРУСЬ

**У нядаўна апублікаваным рэйтынгу найбагацейшых бізнесменаў Санкт-Пецярбурга, які з'яўляецца радзімай цяперашняга прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна, знайшлося досыць шмат інвестараў у Беларусь.**

У мінулым годзе сумесна з беларускім, літоўскім і індыйскім партнёрамі пачаў праект у Бешанковічах заснавальнік і саўладальнік адной з самых інавацыйных фармацэўтычных кампаній сучаснай Расеі «Біакад» Дзмітрый Марозаў (10 млрд рас. рублёў). Дарэчы, кіруе фабрыкай «Націвіта», якая будуецца, экс-кіраўнік Нацыянальнага агенцтва інвестыцый і прыватызацыі Беларусі Дзмітрый Клеўжыц.

Яшчэ адзін з пуцінскіх землякоў - добра вядомы пасля няўдалай спробы кампаніі «Балтыка» набыць мінскую «Крыніцу» Таймураз Балоеў. Пасля сыходу з піўнога гіганта менеджэр некалькі гадоў паспеў пакіраваць будоўляй алімпійскага Сочы. Пры ім, дарэчы, спачатку выйграў, а потым адмовіўся будаваць там біятлонную трасу «Трайпл». Зараз Балоеў - уладальнік аднаго іх самых паспяховых тэкстыльных холдынгаў Расіі «БТК груп». Поспех яго бізнэсу шмат у чым звязаны з тым, што ён абшывае расійскую армію, праваахоўныя і іншыя казённыя структуры. З 2013 года «БТК груп» частку заказаў размяшчае ў Брэсце на выкупленай там фабрыцы «Караліна». Балоеў (яго стан - каля 30 млрд рас. рублёў) вельмі хацеў набыць і буйнога пастаўшчыка матэрыялаў «Магатэкс». Але гэтая спроба пакуль не ўвянчалася поспехам.

Мільярдамі варочае (15 млрд рас. рублёў) іншы фігурант спісу, уладальнік месца агульнага харчавання холдынгу «Еўразія» Аляксей Фурсаў. Нягледзячы на закрыццё некалькіх аднайменных сушы-бараў у шэрагу расійскіх гарадоў, у Мінску па-ранейшаму функцыянуюць чатыры ўстановы пад брэндам гэтай сеткі.

У Давіда Трактавенкі 12,8 млрд рас. рублёў і сельскагаспадарчае прадпрыемства ў Гарадоцкім раёне, якое належыць яго малочна-кансерваваму холдынгу «Канцэрн «Дзецкасельскі».

Паўночны кароль забаў і эфіру Яўген Фінкельштэйн (7,1 млрд рас. рублёў, Карпарацыя PMI) у мінулым годзе ўклаўся ў балтыйскі анлайн-сэрвіс па продажы білетаў і разам з ім набыў 25% -ную долю ў беларускім аператары «білецік».

Людміла Андрэева (3,7 млрд рас. рублёў) з'яўляецца асноўнай уладальніцай ГК «220 Вольт», якая абвясціла ў гэтым годзе аб пачатку экспансіі на беларускі рынак са сваімі электраінструментамі і таварамі для дома. Па франчайзінгу група плануе на працягу 5 гадоў адкрыць 25 магазінаў, шэсць з якіх павінны з'явіцца ўжо ў гэтым годзе.

Самы багаты піцерац Генадзь Цімчанка (660 млрд рас. рублёў) пакуль актываў у Беларусі не знайшоў. Затое ён знайшоў надзейнага беларускага партнёра. Ён і яго партнёр, таксама ўраджэнец Санкт-Пецярбурга Мікалай Шамалаў - уладальнікі «Сібур Холдынгу». Менавіта на гэта прадпрыемства адпраўляе для перапрацоўкі прыродны газ кампанія НК «Янгпур» з Ямала-Ненецкай аўтаномнай акругі. Нагадаем, у 2013 годзе «Янгпур» купіла «Беларуснафта».

**TUT.BY**

РЭХА ВЫБАРАЎ

## МЫ – НАПЕРАДЗЕ ПЛАНЕТЫ ЎСЁЙ!

**Бешанковіцкі раён паставіў рэкорды на выбарах Прэзідэнта. Тут амаль усе прыйшлі на выбары і амаль адзінагалосна прагаласавалі за Лукашэнку.**

11-га кастрычніка найбольш актыўна ўчасткі наведвалі да 10 гадзін раніцы - у гэты перыяд у вобласці прагаласавала 45,10% выбаршчыкаў. У апошнія два гадзіны перад закрыццём участкаў актыўнасць знізілася: з 18 да 20 гадзін свой голас аддалі 2,5%.

Па папярэдніх дадзеных Цэнтрвыбаркама, лідэрам па яўцы ў галіне стаў Бешанковіцкі раён - тут яна была практычна стоадсоткавай - 99,2%. Амаль гэтак жа актыўна галасавалі жыхары Лёзненскага (97,8%), Расонскага (97,6%), Шаркаўшчынскага раёнаў (97,3%). Найменшая колькасць

*(працяг на стар. 2)*

РЭХА ВЫБАРАЎ

*(пачатак на стар. №1)* людзей прыйшло на ўчасткі ў Першамайскім раёне Віцебска - 83%.

87,30% выбаршчыкаў вобласці выказаліся за пяты прэзідэнцкі тэрмін Аляксандра Лукашэнкі. Яго апаненты не набралі і 5%. Амаль цалкам дзеючага кіраўніка дзяржавы падтрымалі ў Бешанковіцкім раёне (96,09%).

За Сяргея Гайдукевіча прагаласавала 3,95% выбаршчыкаў рэгіёну (прычым найбольшую падтрымку ён знайшоў у жыхароў Першамайскага раёна Віцебска (8,54%), Наваполацка (5,90%) і Лепельскага раёна (4,25%)).

Кандыдатуру Таццяны Караткевіч падтрымалі 3,56% выбаршчыкаў. Найбольшыя сімпатыі яна выклікае ў жыхароў Глыбоцкага (8,07%), Шумілінскага (6,92%) і Верхнядзвінскага (6,89%) раёнаў.

За Мікалая Улаховіча прагаласавала 1,40% выбаршчыкаў. Больш за ўсё прыхільнікаў у вярхоўнага атамана Беларускага казацтва пражывае ў Наваполацку (3,10%) і Першамайскім раёне Віцебска (3,05%).

Галачку супраць усіх кандыдатаў паставілі 25 483 выбаршчыкі.

**TUT.BY**

ЗДАРЭННІ

# АДНАВЯСКОВЕЦ УКРАЎ ГРОШЫ

**27-га верасня ў 16 гадзін 20 хвілін у Бешанковіцкі РАУС звярнулася пенсіянерка 1947 года нараджэння.**

Яна паведаміла, што невядомы злачынец, пракраўся ў яе дом, і здзейсніў крадзеж грошай у суме 1,4 млн. рублёў.

Супрацоўнікамі ОУР РАУС устаноўлена, што злачынства здзейсніў аднавясковец - працоўны ГП "Плісы-Агра", раней судзімы, 1957 года нараджэння.

**З сайта МУС**

НАВІНЫ СЯЛА

# СЯЎБА АЗІМЫХ: НЕ ХАПАЕ ПАЛІВА І ЎГНАЕННЯЎ

**Асенняя сяўба на Віцебшчыне ідзе хутчэй, чым у мінулым годзе, і завяршыць працы аграрыі мелі намер да 1-га кастрычніка.**

- Азімы клін складае ў гэтым годзе 213.000 гектараў, за рэдкім выключэннем, усе раёны пачалі сяўбу своечасова, і ёсць упэўненасць, што з планамі справімся, - кажа начальнік упраўлення раслінаводства аблсельгасхарча Іван Фёдараў. - Па структуры пасяўных плошчаў істотных зменаў няма. Адзіная навіна: 2,5 тысячы гектараў у гаспадарках, якія ўваходзяць у інтэграцыйныя структуры мяса-малочнай прамысловасці, зоймуць гібрыды азімага жыта - увесну спадзяемся атрымаць зялёны корм. У ідэальным варыянце завяршыць асеннюю сяўбу вобласць планавала да 25 верасня, але пры такім спрыяльным надвор'і, якое дорыць цяперашні верасень, дапусцімы і тэрмін 1 кастрычніка. На сярэдзіну тыдня насенне азімых закладзена ў глебу больш чым на 142,6 тыс. га, або крыху больш за 67 працэнтаў ад задання. У лідэрах - Віцебскі раён (89 адсоткаў), Бешанковіцкі (88 адсоткаў), Дубровенскі (92 адсоткі). Адстаюць Расоны і Сянно, дзе пасеяна толькі каля паловы. Прычыны затрымкі банальныя: паломка тэхнікі і нездавальняючая арганізацыя работ. З-за іх не ўсё своечасова пасеялі і азімы рапс, а ў некаторых гаспадарках Гарадоцкага раёна, напрыклад, насенне гэтай культуры сеялі без выканання найпростых тэхналогій.

Аблсельгасхарч узяў такія палі на кантроль, каб вясной паглядзець на вынік і прыцягнуць вінаватых да адказнасці. На практычным семінары, які праходзіў у Віцебскім раёне, адзначалі і такі тэхналагічны недахоп: несвоечасовае узворванне. Устаноўленыя патрабаванні не вытрымаў практычна ні адзін раён. Па патрабаванні старшыні аблвыканкама Мікалая Шарстнёва ў Камітэце па сельскай гаспадарцы і харчаванню створаны аператыўныя тэхналагічныя групы, якія штодня адсочваюць кампанію ў кожным сельгаспрадпрыемстве.

Начальнік Бешанковіцкага райсельгасхарчу Сяргей Акуневіч: - Мы ўжо пасеялі больш за сем тысяч гектараў з запланаваных васьмі тысяч, за чатыры-пяць дзён скончым працу. Калі надвор'е дазволіць, звыш задання пасеем азімае жыта для ранняй падкормкі пагалоўя буйной рагатай жывёлы. Дрэнна, што не хапае фосфарных угнаенняў і што фактычна з колаў прыходзіцца запраўляць тэхніку палівам.

Угэтым годзе аграрыі Віцебскай вобласці намалацілі без малога 1,4 мільёна тон збожжа - такога валавога збору паўночны рэгіён яшчэ не дасягаў. На круг атрымалі 36 цэнтнераў з гектара, але, на думку старшыні аблвыканкама Мікалая Шарстнёва, які вясной сфармуляваў для рэгіёну новую аграрную палітыку, вынікі могуць быць яшчэ лепшымі:

-У наступным сезоне неабходна выйсці на ўраджайнасць 40 цэнтнераў, і гэта абсалютна рэальная мэта. Мы многае губляем з-за невыканання тэрмінаў. Не варта распыляцца і павялічваць плошчы. Неабходна прырастаць ва ўраджайнасці і за кошт гэтага прыбаўляць у валавым зборы збожжа. Наша задача якасна і своечасова правесці ўсе працы, і вынік абавязкова будзе.

Цяперашні сезон зламаў усе ранейшыя стэрэатыпы з нагоды лімітавай ўраджайнасці збожжавых у паўночным рэгіёне. У кожным раёне вобласці ёсць гаспадаркі, дзе атрымлівалі па 60-70 цэнтнераў з гектара. У пяці раёнах - Верхнядзвінскім, Дубровенскім, Пастаўскім, Аршанскім і Бешанковіцкім - ураджайнасць пераваліла за 40 цэнтнераў. Там, дзе атрыманы нізкія ўраджаі - у 22 гаспадарках вобласці гектар даў менш за 25 цэнтнераў збожжа, - прааналізаваныя прычыны недабору. На думку Івана Фёдарава, на вынік паўплывалі невыкананне тэхналогій, вясновае ворыва, дрэнная праца з гліфасатамі і сродкамі абароны, няправільны выбар папярэднікаў, няякасная сяўба, у тым ліку познія тэрміны і агрэхі ў ўборцы. Сёння закладваецца аснова ўраджаю будучага года, гаспадаркі-аўтсайдары ўзяты на асаблівы кантроль.

**"Беларуская ніва"**

НАША ЖЫЦЦЁ

# НЕ НАШЫЯ

**Не ў тым сэнсе, што яны па-беларуску не гавораць (тым больш, што на самой справе гавораць, хоць і дрэнна). І не ў сэнсе нацыянальнасці па нараджэнні. І нават не таму, што скалiёз зарабілі, аглядаючыся на Маскву. Улада наша не беларуская па сваёй сутнасці, па змесце, па манеры выканання. Улада - адна, а беларусы - іншыя.**

Вось цяпер інтэрнэт гудзе, таму што міліцыя груба, жорстка, за ногі выцягвала з пераходу метро сляпога інваліда, які прасіў міласціну. Ён нічога не рабіў, ні да каго не чапляўся, проста стаяў, адным сваім выглядам паказваючы, што мае патрэбу ў сродках да існавання. А яны - вось так - нахабна, упёрта. Надзелі кайданкі, працягнулі па падлозе, спусцілі з лесвіцы ...

Убачанае абурыла сведак, адзнятае на мабільнікі відэа інцыдэнту - узарвала інтэрнэт. «Адпусціце яго!», «Што вы робіце ?!», «Як вы звяртаецеся з інвалідамі ?!», «На якой падставе ўжываеце фізічную сілу ?!», - абураліся людзі, адбіваючы няшчаснага ад праваахоўнікаў. А калі відэа таго, што адбылося з'явілася ў інтэрнэце, гнеў ўзмацніўся тысячаразова. «Ганьба!», «Такая міліцыя небяспечная для грамадства!», «Міністр Шуневіч, зніміце пагоны!» ...

Міністр пагоны не зняў. Больш за тое, ён стрымана паведаміў, што «супрацоўнікі міліцыі дзейнічалі ў адпаведнасці з заканадаўствам", "не перавысілі сваіх паўнамоцтваў», а іх дзеянні кіраўніцтвам МУС ацэнены «як адпаведныя ўсім нормам і правілам ў такіх выпадках». Іншымі словамі, міністр прызнаў: тое, што абурае людзей, для ўлады - норма. Гэта значыць, пацвердзіў, што яны жывуць па іншых правілах, па іншых паняццях справядлівасці, па іншых мерках. Людзі ў нас - адны, улада - іншая.

Яшчэ прыклад. 26 верасня на турбазе пад Горадняй мусіў адбыцца дабрачынны канцэрт гурта "Стары Ольса", сродкі ад якога планавалася перадаць на лячэнне хворага на рак 8-гадовага Данііла Страшынскага. Чыноўнікі канцэрт не дазволілі, адпісаліся, што для такога мерапрыемства не падыходзіць пляцоўка.

Для масавых п'янак-гулянак - выдатны варыянт, а для збору сродкаў хвораму дзіцяці - не пасуе ?!

І ўсё ж такі мы не першы дзень у гэтай краіне жывем і выдатна разумеем, што не ў пляцоўцы прычына. Проста выбары ў нас цяпер. Непадыходны час для лячэння хворага дзіцяці. Які беларускі чыноўнік можа дазволіць несанкцыянаванае зверху мерапрыемства, калі выбары? Калі ў іх задача - асабліва заўзята бдець, каб «нічога лішняга» ...

Вось і апынуўся Даніїл лішнім. Лячэнне дзіцяці аказалася лішнім.

Людзі, звычайныя беларусы, даведаўшыся аб гэтай абуральнай нялюдскасці, за адзін дзень пералічылі на лячэнне незнаёмага хлапчукі значна больш грошай, чым мог сабраць дабрачынны канцэрт. Сваё абурэнне, нязгоду, пратэст такой дзяржаве яны выказалі рублём. І зараз Даніїл проста абавязаны ачуняць, ён проста абавязаны жыць, каб убачыць сапраўдную, іншую Беларусь, у якой жыццё чалавека і, тым больш, жыццё дзіцяці не мераецца палітычнай мэтазгоднасцю. Яно ўвогуле не мераецца - яно неацэннае.

Зразумела, што сродкі на лячэнне хлопчыка пералічвалі і беларусы, і рускія, і палякі, і габрэі, але па духу, па светапогляду, у адносінах да бліжняга яны - беларусы - спагадны, добры, справядлівы народ. А вось ўлада - не.

І яшчэ адна абуральная гісторыя, ускалыхнуўшая грамадскую думку. У маці-адзіночкі з Бабруйска забралі дзяцей. Жанчына - круглая сірата, сама выхоўвалася ў дзіцячым доме. Каб забяспечыць іншы лёс сыну і дачцэ, білася з гэтым жыццём з усіх сіл. Білася, як магла. Часам пакідала 7-гадовага сына ў доме за старэйшага, а сама сыходзіла на завод у начную змену, таму што так больш плацяць. Улезла ў даўгі за дзіцячы сад, за камуналку, але рабіла ў кватэры рамонт. Усё гэта ёй зараз ўспомнілі.

Усе прызнаюць, што дзеці былі сытыя, апранутыя, абутыя, дагледжаныя, што ўсе ім мама купляла, ні ў чым не адмаўляла. Праўда, аднойчы паведаміла, што забярэ дачку з лякарні не сёння, а заўтра, таму што павінна ісці на працу. У іншы раз, усё з-за той жа працы, не наведала, а патэлефанавала па тэлефоне ... А яшчэ гэтыя чортавы даўгі па квартплаце і за дзіцячы сад, без якіх ёй было ніяк не выкруціцца. І запрацавала дзяржаўная машына.

Калі ў жанчыны адбіралі 4-гадовую дачку, яна, вядома, "дзякуй" не казала. Як напісана ў пратаколе, «аказала фізічны супраціў». Скажу вам шчыра: калі б у мяне забіралі дзіцяці, то з гэтай бітвы хтосьці б не выйшаў жывым. А тут міліцыянт не пакалечаны, у яго нейкія драпіны, але маці змясцілі ў СІЗА, завялі крымінальную справу, дзяцей адправілі ў прытулак ...

Няўжо гэтая няшчасная ў СІЗА заробіць сродкі, каб аплаціць даўгі перад камунальнікамі і перад садком? Няўжо дзецям лепш жыць з чужымі, незнаёмымі людзьмі, а не з маці, якая любіць? Няўжо наша дзяржава стане мацней ад таго, што такі дарагой цаной адпомсціцца драпіны міліцыянта? Няўжо міліцыянту і ўсёй Камісіі па справах непаўналетніх стане лягчэй на сэрцы, таму што яны пакалечылі жыцці траіх чалавек?

Навошта ўсё гэта? .. Хто, каму і што тут даказваў? .. Чаму такое здарылася? ..

Беларусы, у адрозненне ад дзяржавы, разважылі гэтую гісторыю па справядлівасці. Усім светам сабралі сродкі на аплату даўгоў, нейкі добры чалавек, які не ведаў ні гэтую жанчыну, ні яе дзяцей і, магчыма, ніколі не бываў у Бабруйску, аплаціў паслугі адваката ... Гэта для дзяржавы няшчасная маладая мама апынулася статыстыкай, круглай сіратой, за якую няма каму заступіцца. Вось толькі яна хоць і сірата, але не адна. Яна - наша. Таму што мы - народ.

Гэта яны не нашы. Такая ўлада - не наша.

Яны - самі па сабе, мы - самі па сабе. І рана ці позна гэта несупадзенне выбухне.

**Святлана Калінкіна**
**«Народная Воля»**

*(пераклад рэдакцыі з расейскай мовы)*

# АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

ПРЭЗІДЭНСКАЯ КАМПАНІЯ

# ЛУКАШЕНКО ПОЛУЧИЛ «ЭЛЕГАНТНЫЙ» РЕЗУЛЬТАТ

**За несколько дней до этих выборов Александр Лукашенко публично дал понять, что харизматичному лидеру нации негоже побеждать с цифрой ниже 80%. И — о чудо! — Центризбирком в ночь на 12 октября сообщил о победе действующего президента с предварительным результатом в 83,49% голосов.**

При этом лишь 4,42% составил официальный результат занявшей второе место Татьяны Короткевич, мягкой оппонентки Лукашенко (еще два кандидата его только нахваливали). Эта цифра в разы меньше рейтинга Короткевич, зафиксированного в сентябре независимыми социологами (17,9% по закрытому вопросу НИСЭПИ).

Краткое моралите таково: бессменный президент Беларуси не собирается менять систему, разводить гнилую демократию даже в ограниченных масштабах.

**Грубый административный инструментарий сработал**

Впрочем, перед выборами, под оком международных наблюдателей, власти позволили оппонентам устроить несколько уличных праздников непослушания. 11 октября на избирательном участке Лукашенко раскрыл секрет полишинеля: «Я жестко потребовал, чтобы не трогали никого до выборов».

Короче, силовиков, приученных «тащить и не пущать», ныне сдерживали. Но в остальном вертикаль действовала привычными довольно грубыми методами обеспечения результата «за 80», которому Лукашенко некогда невольно приклеил ярлык «элегантного».

На протяжении всей кампании глава государства получал размашистый, затмевавший соперников пиар на телевидении, в других государственных СМИ. Из каждого утюга народ толкали на досрочное голосование (результаты которого, по убеждению оппонентов режима — особенно темный лес).

В итоге явка, по данным Центризбиркома, составила 86,75%. При этом был поставлен рекорд досрочного голосования — более 36%.

Да, независимые наблюдатели фиксировали и принуждение, но по большому счету те же студенты, получившие перспективу лишних выходных, не выглядели, выстраиваясь в очереди на «досрочку», такими уж несчастными жертвами режима. Это к вопросу о новом поколении конформистов.

Люди постарше дисциплинированно шли на участки, ведомые привычкой слушать начальство или исполнять ритуал, как в советские времена. Пропагандистские страшилки насчет Украины тоже побудили какую-то часть электората отдать голос за мир и стабильность (понятно, в чьем образе). А кого-то привлек и дешевый буфет.

Независимое внутреннее наблюдение утверждает, что явка завышена. Но проблема той части наблюдателей, которую не назначают чиновники, в том, что, во-первых, им мало что позволяют видеть; во-вторых, их дискредитируют (провокаторы и все такое); в-третьих, нет механизма, чтобы опротестовать, например, данные о явке через суд.

**Общество не готово давить на власть**

Впрочем, и данные НИСЭПИ показывали, что порог явки в 50% плюс один голос наверняка будет превышен. К бойкоту этих выборов (агитировать за который к тому же запрещено) в сентябре положительно относилось только 15,5% респондентов.

Избранная частью оппозиции стратегия игнора (закамуфлированного бойкота), который-де испугает правящую верхушку, заставит ее демократизировать парламентские выборы 2016 года, изначально выглядела слабой.

Призывами уехать в день выборов на рыбалку, к теще на блины фактически поощрялся абсентеизм. Таким образом оппозиция демобилизует своих потенциальных сторонников, рискуя провалиться еще глубже в маргинальную нишу.

Вечером 11 октября бывший политзаключенный Николай Статкевич и его соратники объявили о начале кампании «Власть — народу». Намечено к ноябрю презентовать предложения по изменению избирательного законодательства. Но глава Центризбиркома Лидия Ермошина несколько ранее уже заявила: «…Я пока таких перспектив не вижу».

Перед выборами в Палату представителей крылу бойко-тистов предстоит определиться — продолжать или менять прежнюю линию. В любом случае трудно себе представить, что разрываемой взаимным недоверием оппозиции удастся выйти на сильную предвыборную коалицию, консолидированное послание электорату.

По крайней мере, кампания «Говори правду», создавшая «проект Короткевич», давно декларировала, что президентские и парламентские выборы рассматривает в одной связке. Но выдвинутая кампанией стратегия мирных перемен тоже получила пробоину в виде низкого официального результата Короткевич на президентских выборах.

Лукашенко абсолютно ни к чему создавать в стране второго политика-тяжеловеса. Он ускользнул 11 октября на участке даже от журналистского вопроса, получит ли Короткевич должность во власти.

И вообще в рассуждениях действующего президента насчет «человека в юбке», которому-де рано управлять страной, было, на мой взгляд, не столько сексизма (который увидела выдвиженка «Говори правду»), сколько банальной ревности даже к относительному успеху любого конкурента.

Короче, Лукашенко не особо настроен заигрывать даже с мягкой оппозицией. Так что и надежды «Говори правду» на мандаты в Палате представителей призрачны.

Расчет на то, что власть пойдет на мирные перемены, поразившись реальной доле голосов за Короткевич, так же слаб, как игнор/бойкот.

В принципе, обе эти стратегии имеют целью вынудить власть к переменам через давление со стороны недовольного общества. Но общество деполитизировано, атомизировано. Ворчание на кухнях или фига в кармане — не самое страшное для консолидированного режима, отработавшего механику «элегантных побед».

Реально напрягает Лукашенко лишь улица. Он даже Светлану Алексиевич, получившую на днях литературного Нобеля, похвалил своеобразно: «Она ведь не зовет людей на площадь, она против мятежей этих. Я это очень ценю».

В том же духе был сформулирован и комплимент Короткевич: «Понаблюдал: да, оппозиционер, но не кричит же гвалтом: на плошчу, ломать, крошить и так далее. Вполне вменяемый, нормальный человек».

**«Месячник свободы» окончен**

Там же, на участке, Лукашенко заочно обратился к заводилам несанкционированных уличных акций: «Выборы заканчиваются в 20.00, начинайте жить по закону».

Это тонкий намек на то, что вольнице, обусловленной желанием Минска не ударить в грязь лицом перед наблюдателями ОБСЕ, осталось недолго.

Между тем марш, прошедший по столице 10 октября, перед последним днем голосования, оказался не слишком многолюдным — в районе тысячи человек. На вечер же 11 октября никаких акций верхушка оппозиции и не намечала. Лишь горстка противников режима стихийно вышла на протест (понятно, это и близко не напоминало мощную Площадь-2010).

На акцию, которую Статкевич планирует провести в конце ноября, приурочив к годовщине референдума-1996, тоже вряд ли выйдет много народу. Ведь снова поднимется градус страха, к тому же будет холодно, да и тема давнего референдума сама по себе не слишком зажигательна. А ожидаемый после выборов скачок цен и тарифов еще не скажется на населении в полной мере.

Итак, Лукашенко, получив очередную «элегантную победу», не получил на этот раз массовых протестов. Соответственно, не потребовалось разгона и посадок. В итоге отчет наблюдательной миссии ОБСЕ об этих выборах хотя и не станет большой похвалой, однако окажется, видимо, менее мрачным, нежели пять лет назад.

А панегириков Минск и не ждал. Констатации минимального прогресса вполне достаточно для продолжения нормализации отношений с ЕС и США. Брюссель уже намекнул на скорую приостановку санкций.

Наверняка был рассчитан на Запад и вновь прозвучавший из уст Лукашенко в день выборов выпад против плана Кремля разместить в Беларуси авиабазу. При том что характерные оговорки показывают: на самом деле это, скорее, заявка на торг — как с Западом, так и с Москвой.

**Программы развития у триумфатора нет**

Итак, победитель получает практически все, что хотел — «элегантный» официальный результат, деморализацию внутренних противников, перспективу стать въездным в Европу.

Нет у него лишь «мелочи» — концепции развития страны и политической воли для настоящих перемен. В предвыборной программе акцент сделан на консервацию режима под лозунгом стабильности и мира.

На избирательном участке 11 октября Лукашенко заявил, что «готов на любые мероприятия и любые реформы», однако тут же добавил: «Но выдержите ли вы это? Надо ли вам это?».

Понятно, что при такой постановке вопроса никаких серьезных преобразований (сверх демонстрационного минимума для получения кредитов) ожидать не стоит. Обывателю по душе покой, реформы же, способные вытянуть нашу экономику из болота, по определению дискомфортны.

Тихая деградация страны продолжится. Впрочем, бессменный президент, будучи на участке, утешил народ очередным афоризмом: «Если Лукашенко изберут, то жизнь на этом не останавливается».

**Александр Класковский**



svaboda.org (RFE/RL)

МІЖНАРОДНАЯ АЦЭНКА

# 34 ПАРУШЭНЬНІ, ЗАФІКСАВАНЫЯ НАЗІРАЛЬНІКАМІ

**Група назіральнікаў ад АБСЭ і Рады Эўропы прадставіла вынікі маніторынгу прэзыдэнцкіх выбараў. Ранейшыя шэсьць прэзыдэнцкіх і парлямэнцкіх выбараў па выніках падобных маніторынгаў былі ацэненыя як неадпаведныя абавязаньням АБСЭ.**

Згодна са справаздачай, «Беларусь яшчэ мае прайсьці доўгі шлях да выкананьня сваіх абавязаньняў па правядзеньні дэмакратычных выбараў». Было адзначана, што назіральнікі ня маюць магчымасьці назіраць за верыфікацыяй подпісаў за вылучэньне ў кандыдаты, за падвядзеньнем вынікаў выбараў. Выбаркамы маюць права абмежаваць доступ назіральнікаў па сваім жаданьні. У палове выпадкаў назіральнікам не далі доступу да сьпісу выбарцаў, часам да працэдуры падліку галасоў.

Свабода пералічвае некаторыя парушэньні, адзначаныя ў справаздачы міжнародных назіральнікаў:

— Нарматыўна-прававая база не зьмянілася істотна, праўкі ў Выбарчы кодэкс 2013 і 2014 гадоў (унесеныя без публічнага абмеркаваньня) не ўлічылі ключавыя рэкамэндацыі АБСЭ і іншых, у тым ліку рэкамэндацыі адносна незбалянсаванасьці выбарчых камісіяў і працэдуры датэрміновага галасаваньня.

— Абмежаваньне свабоды слова адносна заклікаў да зрыву, скасаваньня ці пераносу выбараў, крыміналізацыя паклёпу і абразы ўладаў.

— Адсутнасьць празрыстых крытэраў адбору сяброў тэрытарыяльных і ўчастковых выбарчых камісіяў. Фармаваньне гэтых камісіяў засталося ў кампэтэнцыі мясцовай улады.

— Адсутнасьць адзінага сьпісу выбарцаў, што не дае засьцерагчыся ад шматразовай іх рэгістрацыі. Выбарцаў можна рэгістраваць на ўчастках у дзень галасаваньня, што не дае дастатковай юрыдычнай абароненасьці.

— Высокапастаўленыя чыноўнікі агітавалі за дзейнага прэзыдэнта ў

*(працяг на стар. 4)*

МІЖНАРОДНАЯ АЦЭНКА

*(пачатак на стар. №3)*

працоўны час, у некаторых выпадках — на дзяржаўных прадпрыемствах. Некаторыя грамадзкія аб'яднаньні і арганізацыі, якія фінансуюцца дзяржавай, агітавалі за дзейнага прэзыдэнта.

— Фінансавыя справаздачы кандыдатаў не былі выкладзеныя ў адкрыты доступ, адсутнічалі патрабаваньні па аўдыце, што не забясьпечыла дастатковую празрыстасьць фінансаваньня перадвыбарчай кампаніі.

— Некаторыя дзяржаўныя СМІ асьвятлялі выбарчую кампанію з пасланьнямі на карысьць дзейнага прэзыдэнта, ён быў найбольш заўважнай фігурай дзякуючы асьвятленьню яго дзейнасьці як службовай асобы.

— Немагчымасьць абскардзіць некаторыя рашэньні выбаркамаў, у тым ліку канчатковыя вынікі. Абмежаванае кола асобаў, якія маюць права падаць скаргу.

— У шэрагу выпадкаў заяўленая яўка не адпавядала колькасьці подпісаў у сьпісе выбарцаў. На 47 участках знойдзеныя меркавана аднолькавыя подпісы.

— На 22 участках заўважаныя прыкметы ўкіду бюлетэняў.

— З 2001 году ў Беларусі не было зарэгістравана ніводнай новай палітычнай партыі, што супярэчыць параграфу 7.6 Капэнгагенскага дакумэнту АБСЭ 1990 году.

— Траціна працэдур падліку галасоў, за якімі вялося назіраньне, атрымалі дрэнную ці вельмі дрэнную адзнаку з прычыны значных праблемаў. Чвэрць працэсаў падвядзеньня вынікаў атрымала нэгатыўную адзнаку.

— БДІПЧ назірала за шасьцю апошнімі выбарамі, і ўсе яны былі ацэненыя як не адпаведныя абавязаньням АБСЭ.

— Ніводзін з шасьці асуджаных кандыдатаў у прэзыдэнты на выбарах 2010 году ня быў рэабілітаваны. Правы балятавацца абмежавана папярэдняй крымінальнай судзімасьцю; такія дзеяньні, як удзел у несанкцыянаваных мерапрыемствах, могуць прывесьці да аднаўленьня выкананьня прысуду.

— Выбарчы кодэкс забараняе сяброўства ў выбарчых камісіях кіраўнікоў мясцовых выканаўчых і адміністрацыйных органаў. Але іншыя прадстаўнікі кіраўніцтва гэтых органаў — такія, як намесьнікі старшыняў, начальнікі аддзелаў, — займалі кіраўнічыя пасады ў некаторых тэрытарыяльных камісіях альбо кіравалі іх працай.

— У склад тэрытарыяльных і ўчастковых камісіяў была прызначана мізэрная колькасьць прадстаўнікоў апазыцыі, ніводзін зь іх ня быў прызначаны на кіраўнічую пасаду. Іх скаргі на адмову ва ўключэньні ў склад выбарчых камісіяў адхіленыя з фармулёўкай «беспадстаўныя».

— Было адзначана, што ініцыятыўная група дзейнага прэзыдэнта злоўжывала адміністрацыйнымі рэсурсамі ў працэсе збору подпісаў.

— Правілы вэрыфікацыі подпісаў недакладныя і супярэчаць міжнародным добрасумленным практыкам. Таксама яны дапускаюць адвольныя рашэньні ТВК, якія ня могуць быць абскарджаныя.

— Нізкая прысутнасьць выбарцаў на бальшыні агітацыйных мерапрыемстваў сьведчыла пра адсутнасьць цікавасьці грамадзкасьці да выбараў.

— Практыка перадвыбарчай агітацыі сьцерла мяжу паміж перадвыбарчай кампаніяй дзейнага прэзыдэнта і дзяржавай. Некалькі ягоных давераных асоб былі высокапастаўленымі чыноўнікамі, які працягвалі ажыцьцяўляць свае дзяржаўныя функцыі падчас правядзеньня кампаніі.

— Сход, арганізаваны Міністэрствам абароны, заклікаў усіх цяперашніх і былых вайскоўцаў, а таксама іхнія сем'і, падтрымаць кандыдатуру дзейнага прэзыдэнта.

— Экзарх Рускай праваслаўнай царквы ў Беларусі падтрымаў кандыдатуру дзейнага прэзыдэнта на цырымоніі, дзе прысутнічалі іншыя духоўныя лідэры, прадстаўнікі ўлады, прадзяржаўных партыяў і сам прэзыдэнт.

— Давераныя асобы дзейнага прэзыдэнта арганізоўвалі сустрэчы на дзяржаўных прадпрыемствах, што дало яму неправамерную перавагу і супярэчыць параграфу 7.7 Капэнгагенскага дакумэнту АБСЭ 1990 году.

— Арганізатары мерапрыемстваў, на якіх ставілася пад сумнеў легітымнасьць выбараў, судом былі аштрафаваныя за правядзеньне іх без дазволу.

— Некаторыя дзяржаўныя органы працягваюць практыку засакрэчваньня грамадзка даступнай інфармацыі, што супярэчыць параграфу 9.1 Капэнгагенскага дакумэнта АБСЭ.

— 22 верасьня ЦВК адхіліла запыт журналіста на прадстаўленьне інфармацыі пра перадвыбарчыя фонды кандыдатаў, патлумачыўшы, што СМІ не ўпаўнаважаныя атрымліваць гэтую інфармацыю.

— Папярэднія заключэньні мэдыяманіторынгу сьведчаць пра значна большае асьвятленьне дзейнасьці кіраўніка дзяржавы. За пэрыяд з 7 верасьня па 7 кастрычніка дзяржаўнае радыё і тэлебачаньне прысьвяцілі 47% свайго палітычнага вяшчаньня дзейнаму прэзыдэнту, 9% — Караткевіч, па 7% — Гайдукевічу і Ўлаховічу.

— Бальшыня скаргаў у ЦВК былі адхіленыя на фармальных падставах альбо як неабгрунтаваныя. Разгляд скаргаў не заўсёды быў празрысты.

— Каля дзьвюх трацінаў усіх акрэдытаваных грамадзянскіх назіральнікаў прадстаўлялі грамадзкія аб'яднаньні, якія фінансуюцца дзяржавай (ФПБ, БРСМ, «Белая Русь»).

— Дрэнная якасьць пячатак і скрыняў часам ставіла пад сумнеў бясьпеку бюлетэняў пры датэрміновым галасаваньні.

— На чатырох працэнтах участкаў назіральнікі адзначылі незахаваньне тайны галасаваньня.

— У 50% выпадкаў назіральнікам было адмоўлена ў праверцы сьпісаў выбарцаў, і ў некаторых выпадках яны не маглі бачыць працэдуру датэрміновага галасаваньня.

— Падлік галасоў атрымаў нэгатыўную ацэнку назіральнікаў. 30% працэдур падліку галасоў былі ацэненыя як дрэнныя альбо вельмі дрэнныя.

— Толькі адзін кандыдат адкрыта крытыкаваў дзейнага прэзыдэнта, што прадставіла выбарцам абмежаваны выбар.

**Іна Студзінская**
**"Радыё Свабода"**

АГІТАЦЫЯ

# ЗАМЕСТ УСЕБЕЛАРУСКАГА СХОДУ - МАЛІТВА

**«Калі вайна, не важныя ні прадукты, ні кошты. Спытаеце ў уцекачоў». Вось так вытанчана, двума сечанымі фразамі, зняў Аляксандр Лукашэнка вісячае ў паветры пытанне пра правал пяцігодкі.**

Гаворка прэзідэнта прагучала на ўрачыстым мерапрыемстве «Малітва за Беларусь» увечары 2 кастрычніка каля сталічнага храма-помніка ў гонар Усіх святых.

**Праваліўшы матэрыяльнае, успомнілі пра духоўнае**

Раней перад прэзідэнцкімі выбарамі праводзіліся Усебеларускія народныя сходы на манер з'ездаў КПСС. Дзеючы кіраўнік, які адрадзіў камуністычнае слова «пяцігодка», выходзіў на трыбуну горда. Да выбараў 2001 абяцаў па сто даляраў сярэдняй зарплаты - выканаў. Да выбараў-2006 даў па 250. Нарэшце, у 2010-м нават злёгку перавыканаў абяцанае «ўсім па 500».

Тады ж было намечана да 2015 года выйсці на сярэдні заробак у тысячу даляраў. Але цяпер ледзь наскрабаецца 400. І наогул, гэта пяцігодка правалена па ўсіх паказчыках.

Сеўшы ў галёшу, традыцыю «народнага веча» (памятаеце гэты фальшывы вобраз і гэты казённы пафас?) вырашылі ціха пахаваць. І калі раней ўпіралі на ідэалогію чаркі ды скваркі, то зараз вось рэзка ўспомнілі пра духоўнае.

**Украінская страшылка спрацавала**

У суседніх краінах НАТО - Польшчы, тым больш Літве і Латвіі - наадварот, самі пацепваюцца, малюючы ва ўяўленні карціны расійскай агрэсіі, камплексуюць з нагоды недастатковасці узброеных сіл і просяць у амерыканцаў падмацавання.

Паўднёвая суседка - растузаная Украіна таксама, натуральна, не думае на нас нападаць, насупраць, пабойваецца ўдару Масквы з беларускай тэрыторыі - союзнічкі ж.

Што ж тычыцца ўсходняй суседкі, то сам Лукашэнка запэўнівае, што «Расея ніколі не будзе ваяваць з Беларуссю». Праўда, дадаючы, што порах мы будзем трымаць сухім супраць усіх.

Ва ўсякім выпадку, з краін рэгіёну толькі Расея ў апошнія гады нападала на суседзяў і адрывала тэрыторыі - у Грузіі, Украіны.

Але менавіта з ёй у Беларусі адкрытая мяжа. І зараз менавіта ўсходняя саюзніца падстаўляе нас пад удар, імкнучыся размясціць тут сваю авіябазу. Так што рызыка патрапіць пад раздачу, калі пачнецца якая-небудзь заварушка, ствараецца выключна дзякуючы той «братэрскай інтэграцыі», у тым ліку ваеннай, у якую шмат гадоў гуляе з Масквой нязменны беларускі прэзідэнт.

Вераснёўскае апытанне НІСЭПД зафіксавала: пры прыняцці рашэння, за каго галасаваць на прэзідэнцкіх выбарах, беларусы сталі вылучаць на першае месца пытанне міру і стабільнасці (47,6% рэспандэнтаў). Параўнайце, які рэйтынг у іншых праблем: агульнае якасць жыцця - 37%, рост коштаў - 30%, працоўныя месцы -20% з хвосцікам.

Страх дэстабілізацыі, крыві, вайны, які нагнятаецца штучна, выцесніў на другі план матэрыяльныя патрэбы. Што вельмі на руку вярхам, калі эканамічная мадэль капітальна пасаджана на мель.

Украінская страшылка дапамагае таксама канчаткова дыскрэдытаваць беларускую апазіцыю: вось, ездзілі на Майдан, хочуць і ў нас пажар распаліць. У прамове каля храма 2-га кастрычніка Лукашэнка таксама згадаў пра нейкіх нашых грамадзян, «якія сітуацыю ў Украіне хочуць павярнуць ўнутр Беларусі».

Ну і вожыку зразумела, хто на гэтым фоне выратавальнік нацыі і каму трэба аддаць галасы на выбарах 11 кастрычніка.

**Святы піяр**

Так, і як раз у дзень эпічнай малітвы, 2-га кастрычніка, Цэнтрвыбаркам адхіліў, палічыўшы надуманымі, дзве скаргі кандыдата ў прэзідэнты Таццяны Караткевіч на кандыдата Лукашэнкі.

У першай гаворка ішла аб схаванай агітацыі ў яго карысць за дзяржаўны кошт, у тым ліку з выкарыстаннем дзяржСМІ. Другая грунтавалася на тым факце, што дэлегаты 5-га Афіцэрскага сходу Узброеных сіл прынялі зварот да ўсіх ваеннаслужачых і членаў іх сем'яў з заклікам выказаць ўсялякую падтрымку на маючых адбыцца выбарах галоўнакамандуючаму Лукашэнку. Караткевіч палічыла гэта выкарыстаннем адміністрацыйнага рэсурсу.

Пажалься яна цяпер з нагоды выкарыстання "Малітвы за Беларусь" для перадвыбарчага піяру кіраўніка дзяржавы - няцяжка прадбачыць, што і гэтую прэтэнзію адмятуць. А то і ў кашчунстве, непавазе да вернікаў абвінавацяць могуць.

У выпадку з афіцэрамі Цэнтрвыбаркам палічыў, што гэта была ініцыятыва самога сходу, да якой не мае ніякага дачынення каманда Лукашэнкі. Ну а тут скажуць - ініцыятыва сьвятых айцоў і паствы.

І ўжо, вядома, выключна на загадзе ўласнага сэрца мітрапаліт Павел выказаў на гэтым пампезным і паказаным на ўсю краіну мерапрыемстве падтрымку палітыцы Лукашэнкі «на парозе важнага выбару». Праўда, зрабіў гэта мітрапаліт «ад імя ўсіх праваслаўных». Прызнавайцеся, праваслаўныя, канкрэтна ваша асабістае меркаванне пыталіся?

Дарэчы, з шараговых вернікаў (а часткова, мабыць, і «праваслаўных атэістаў») каля храма ў дзень мерапрыемствы выбудавалі жывы калідор у некалькі сотняў метраў. Прычым сталі не з харугвамі, а з сімволікай БРСМ, «Белай Русі» і іншых праўладных структур. Як звычайна на казённых мерапрыемствах. Па некаторых дадзеных, арганізацыям спускалася разнарадка на ўдзельнікаў гэтай масоўкі.

І яшчэ штрых: да пляцоўкі каля самай царквы прапускалі толькі па запрашэннях. Абраную публіку. Як у ранейшыя часы на Усебеларускі народны сход.

Так, у 2006 годзе тагачасны апазіцыйны кандыдат Аляксандр Казулін спрабаваў прайсці на Усебеларускі сход, але быў збіты «людзьмі ў цывільным» і дастаўлены ў міліцыю. Пасля выбараў жа ён і зусім сеў у турму.

У 2010 годзе апазіцыйны кандыдат Уладзімір Някляеў паспрабаваў вылучыцца дэлегатам на Усебеларускі сход, але і яму чыноўнікі, узмоцненыя АМАПам, сказалі «ад вінта». Дзякуй богу, тады не збілі, але ў дзень выбараў Някляеву дасталася ад праславутых «людзей у цывільным» па поўнай праграме. І за краты ён потым трапіў, як і Казулін.

Супернічаюць цяпер з Лукашэнкам кандыдаты навучаныя горкім вопытам: двое хваляць дзеючага прэзідэнта, адна праклiмуе мірныя перамены, і ніхто нікуды не прарываецца.

Справаздачу аб праваленай пяцігодцы можна спакойна і прыгожа падмяняць малітвай.

**Аляксандр Класкоўскі**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 16.10.2015 у 16.40**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.